**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 43 (811) 22 кастрычніка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Глыбоцкія школьнікі наведалі своеасаблівы ўрок беларускай гісторыі, якая цесна звязаная з нашым краем, з нашым Полацкім княствам, куды ўваходзіла і старажытная Глыбоччына. Да іх завіталі рыцары – з полацкага ваярска-гістарычнага клуба "Гівойт". Дзеці адчулі подых нашай вялікай і слаўнай гісторыі. Яны не засталіся раўнадушнымі. Актыўна ўдзельнічалі ва ўсіх намінацыях: стральбе з лука, фехтаванні мячамі, сярэднявечных танцах, фотасесіях з рыцарамі. І вялікі дзякуй Віктару Дудкевічу, майстру з Глыбоцкага Дома рамёстваў, які змог арганізаваць такі цудоўны ўрок гісторыі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*
Працяг тэмы – стар. 4.

## У Глыбокім хочуць стварыць першы ў краіне турмаршрут для людзей з абмежаванымі магчымасцямі

**На новай спартовай пляцоўцы «Сцежка здароўя» ў Глыбокім плануюць стварыць безбар'ернае асяроддзе. Тут з'явяцца ўмовы для першага ў краіне турыстычнага маршруту для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.**

У праекта – тры кірункі. «Сцежку здароўя» ў дэндрапарку хочуць адаптоўваць для людзей з парушэннямі апорна-рухальнага апарата. У прыватнасці, на брусах у спартовым гарадку ўсталююць адмысловыя трэнажоры. Для дзяцей-інвалідаў створаць анімацыйную навучальную праграму, каб паказаць ім, што пэўная хвароба не з'яўляецца бар'ерам для заняткаў спортам. Завяршальны этап – экскурсія для людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Яна будзе пачынацца ў Глыбокім і знаёміць з цікавосткамі горада, а завяршацца ў дэндрапарку.

– Рэалізаваць гэты праект будзе няпроста, – адзначае інструктар-метадыст па турызму Глыбоцкага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра Ала Галай. – Бо ў Беларусі няма распрацаваных нарматываў і методыкі правядзення экскурсій для інвалідаў, не існуе навукова абгрунтаваных нормаў дапушчальных фізічных нагрузак для розных катэгорый людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Таму мы плануем прайсці навучанне.

*Kraj.*

## У Віцебскай вобласці грамадзяне, якія жывуць не па сродках, выплацяць у бюджэт больш 5 млрд. рублёў

У Віцебскай вобласці фізічным асобам, у якіх усталявана неадпаведнасць выдаткаў прыбыткам, дадаткова прад'яўлена да выплаты 4,9 млрд. рублёў, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па рэгіёне.

За 9 месяцаў гэтага года інспекцыі вобласці выпатрабавалі 2 тысячы 108 дэкларацый аб прыбытках і маёмасці. Гэта было зроблена ў выніку аналізу адпаведнасці выдаткаў прыбыткам, а таксама на падставе запытаў праваахоўных і кантралюючых органаў.

Праверкі паказалі, што заканадаўства аб дэкларамванні прыбыткаў і маёмасці парушылі 936 чалавек. З іх спагналі 4,9 млрд. рублёў.

Да таго ж, за непаданне дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці або ўказанне ў ёй няпоўных ці няпэўных звестак, парушальнікаў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Сума штрафаў склала 279,9 млн рублёў.

*Паводле прэс-цэнтра ІМПЗ*



Падача абвестак па тэлефоне № 166



ISSN 2077-8023



Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

### Глыбоцкі раён

# Каб быў падлік сумленным

■ Станіслаў Раманчук.

**Балюча і на гэты раз улады ўспрынялі заключэнне назіральнай місіі АБСЕ, што Беларусі яшчэ многае трэба зрабіць, каб адпавядаць узятым на сябе абавязацельствам па дэмакратычных выбарах.**

Галоўныя ж прэтэнзіі замежных экспертаў былі сёлета, што падлік пададзеных галасоў быў нячэсным на трэці ўчасткаў для галасавання. Сур'ёзна адрозніваюцца вынікі народнага волевыяўлення ў Глыбоцкім раёне ад агульных па Беларусі. Тут зафіксаваны не толькі найбольшы ў вобласці ўзровень падтрымкі за адзінага дэмакратычнага кандыдата Таццяну Караткевіч, але і многія камісіі працавалі сумленна. Вось і на ўчастку для галасавання № 4 у самім райцэнтры выніковы пратакол зафіксаваў, што на выбары не пайшлі нават 478 выбаршчыкаў (21,9 %) з 2179, уключаных у спісы. Хоць і тут значная колькасць мясцовых жыхароў - 678 чалавек прагаласавалі датэрмінова, аднак, і галоўны фаварыт выбараў А. Лукашэнка набраў толькі 62% галасоў (1068) у сваю падтрымку, што дзесьці ў межах яго рэальнага рэйтынгу пры цяперашнім крызісе і абвале. А вось Т. Караткевіч падтрымалі і аддалі свае галасы нават 428 выбаршчыкаў (25,2%). Дарэчы, і ў цэлым у многіх рэгіёнах былі зафіксаваны падобныя аб'ектыўныя вынікі, бо там працавалі, як трэба, і незалежныя назіральнікі. Дарэчы, менавіта на Глыбоччыне кандыдатура Т. Караткевіч выклікала найбольшую падтрымку (2062 галасы). Аднак, у значна больш праблемным Браслаўскім раёне за яе прагаласавалі толькі 272 выбаршчыкі, што наводзіць на роздум, ці былі выбары сумленнымі і празрыстымі ў азёрным краі.

### Пастаўскі раён

# Не тая цяпер вёска

■ Кастусь Александровіч

**На прайшоўшых прэзідэнцкіх выбарах зноў у "перадавіках" аказаліся жыхары сельскай мясцовасці, у якіх яўка на выбарчыя ўчасткі нагадвала ранейшыя савецкія часы.**

Сярод адміністрацыйных рэгіёнаў Віцебшчыны перакрыў абласны паказчык актыўнасці выбаршчыкаў і Пастаўскі раён, дзе прагаласавала 93,1% выбаршчыкаў. Вось толькі вяскоўцы цяпер зусім не так шчыруюць на палях і фермах, як прадстаўнікі старэйшых пакаленняў. Ужо пасля завяршэння гэтых выбараў на Пастаўшчыне ў полі яшчэ мерзлі 15 гуртоў кароў, бо не былі гатовы памяшканні для пастаноўкі жывёлы на зімова-стойлавае ўтрыманне. Не дзіўна, што пры такіх адносінах да рагуль рэзка абваліліся надоі, паколькі каля 10 начэй стаялі даволі моцныя начныя замаразкі, над каровамі, практычна, здзекаваліся. Калі ж са скрыпам такім гора-гаспадарам удаецца выплаціць зарплату, то ў раёне наступае ледзь ці не стыхійнае бедства з-за масавых запояў. Намесніку дырэктара аднаго з праблемных сельгаспрадпрыемстваў "Янавіца-агра" прыйшлося двое сутак пасвіць статак, бо штатныя пастухі былі ў неадэкватнай форме. На прадстаячую зімоўку не ўдалося ў шэрагу гаротных калгасаў нарыхтаваць кармоў у патрэбнай колькасці, і ў раёне прыйшлося пайсці на тое, каб забраць жывёлу ў нядбайных, перадаць спраўным гаспадаркам, дзе яе будуць нармальна карміць. Дарэчы, у гэтай пяцігодцы толькі ў гэтым раёне ў развіццё АПК уклалі 530 мільярдаў рублёў, перааснасцілі 14 жывёлагадоўчых ферм. Аднак, даўгі мясцовых калгасаў растуць, прадукцыя стратная і толькі 4 з 15 гаспадарак маюць грошы, каб жыць і развівацца.

### Шумілінскі раён

# Расце сетка аптэк

■ Чэслаў Якубовіч.

**З-за няпростай сітуацыі ў эканоміцы не так і шмат апошнім часам уводзіцца ў эксплуатацыю жылля і патрэбных аб'ектаў сацыяльнай сферы.**

Вось чаму ў райцэнтры Шуміліна вельмі ўзрадаваліся жыхары, калі днямі тут здалі ў эксплуатацыю навасёлам новы прыгожы 32-кватэрны жылы дом з сучаснай планіроўкай. Ён будаваўся па дзяржзаказу, а ключы ад новенькіх двухпакаёвых кватэр атрымалі і дзве шчаслівыя шматдзетныя сям'і. З-за дарагавізны жылой плошчы ў гэтым доме кватэр большай па памерах плошчы ўвогуле не планавалася. Услед за гэтым у райцэнтры пачалі праектаванне і яшчэ адной шматпавярхоўкі на 40 кватэр, бо ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў яшчэ стаіць 325 жадаючых. Акрамя гэтага наваселля шумілінцаў парадавала і адкрыццё пасля рэканструкцыі цэнтральнай раённай аптэкі №40 першай катэгорыі. Як і жылы дом, гэты аб'ект будаўнікі спецпрадпрыемства "Будсфера" здалі за кароткі тэрмін, усяго за 3,5 месяцы працы. Для працуючых тут 15 фармацэўтаў істотна палепшыліся ўмовы працы, з'явіўся пакой для персаналу і санвузел. У абноўленую аптэку завезлі неабходнае абсталяванне, павялічылася колькасць вітрын, на што было патрачана 4млрд.руб. Між тым, сёлета абласное УП "Фармацыя" услед за гэтым адкрыла абноўленыя аптэкі яшчэ ў Лепелі і ў гарпасёлку Руба, а з пачатку года іх сетка ў вобласці прыбавілася ўжо на 7 устаноў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.10.15 | | | | Пятніца 23.10.15 | | | | Субота 24.10.15 | | | | Нядзеля 25.10.15 | | | | Пан. 26.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +4 | +2 | +4 | +5 | +9 | +7 | +8 | +7 | +9 | +4 | +6 | +6 | +8 | +4 | +5 | +5 | +8 |
| Ціск | 746 | 747 | 746 | 746 | 744 | 742 | 741 | 743 | 746 | 750 | 752 | 753 | 753 | 754 | 752 | 752 | 751 | 751 | 750 |
| Вецер м/сек | 3 | 1 | 2 | 3 | 3 | 5 | 4 | 6 | 7 | 5 | 5 | 1 | 1 | 2 | 4 | 4 | 3 | 3 | 5 |
| | Ю-В | В | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю-З | З | С-З | С-З | С-З | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю-З | З |
| Вільготнасць | 95 | 93 | 87 | 96 | 97 | 93 | 95 | 97 | 97 | 95 | 94 | 97 | 96 | 89 | 78 | 88 | 95 | 93 | 96 |

# Аб самым надзённым

## НАДЗЕІ НА ВЫХАД З РЭЦЭСІІ Ў НАСТУПНЫМ ГОДЗЕ РАСІЙСКАЙ, А ЎСЛЕД ЗА ЁЙ І БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ, БЕЗПАДСТАЎНЫЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Напрыканцы года сёлета ўсё болей расіян пачынаюць усведамляць, што эканамічныя цяжкасці і праблемы ў 2016 годзе не закончацца. У першым паўгоддзі спад эканомікі ад Смаленска да Курыл дасягнуў 3,5%, збанкрутаваў нават расійскі авіяперавозчык, кампанія "Трансаэра", а вось цэны выраслі на 12%.**

Сёлетняй восенню наша суседка Расія пачала чарговую вайну, праўда, пакуль без выкарыстання свайго наземнага ваеннага кантынгенту ў Сірыі. Яшчэ раней, у пачатку верасня, расійскі ўрад Д. Мядзведзева прыняў праект пастановы аб размяшчэнні на беларускай зямлі ваеннай авіябазы РФ. Расійскі лідар У. Пуцін даў даручэнне свайму ўраду падпісаць такое пагадненне, нібыта на 15 гадоў, з беларускімі калегамі. Характэрна, што афіцыйны Мінск публічна ніяк не адрэагаваў па падобныя паведамленні, а вось беларуская апазіцыя зладзіла ў цэнтры Мінска несанкцыянаваную акцыю пратэсту з плакатамі-заклікамі да рускіх лётчыкаў "Валите домой!".

Фармальна айчынныя апазіцыянеры маюць усе падставы на такія рэзкія выказванні сваёй пазіцыі, паколькі нейтральны статус Беларусі замацаваны ў нашай Канстытуцыі. Увязваца на баку Крамля ў ягоным супрацьстаянні з Захадам, пасутнасці, у новую "халодную вайну", беларусам неразумна. Тая нейтральная пазіцыя беларускага кіраўніцтва наконт баявых дзеянняў у Данбасе прынесла краіне толькі станоўчыя дывідэнты, пацяпленне адносін з ЕС і ЗША, а гэта нам вельмі патрэбна з-за няпростай сітуацыі ў эканоміцы, калі толькі гандаль з асноўным гандлёвым партнёрам – Расіяй, сёлета зменшыўся больш, чым на чвэрць.

І самае сумнае, што эканамічнага дна падзення ў рускіх не бачна. На фоне ўдараў іх самалётаў па сірыйскіх праціўніках рэжыма Б.Асада і па ісламістах хаос і напружанне ў гэтым рэгіёне толькі ўзрастаюць. Любыя баявыя дзеянні патрабуюць вялізных затрат, а зараз расійская эканоміка ў моцным крызісе з-за нізкіх цэн на нафту. Напрыканцы года сёлета ўсё болей расіян пачынаюць усведамляць, што эканамічныя цяжкасці і праблемы ў 2016 годзе не закончацца. У першым паўгоддзі спад эканомікі ад Смаленска да Курыл дасягнуў 3,5%, збанкрутаваў нават расійскі авіяперавозчык, кампанія "Трансаэра", а вось цэны выраслі на 12%.

Расійскі ўрад значна болей пачаў траціць сродкаў на ваенныя расходы, а цяпер узяў фактычна на сваё ўтрыманне частку тэрыторыі мяцежных Луганскай і Данецкай абласцей, дзе і мізэрныя пенсіі пачалі плаціць рускімі рублямі. А вось сродкаў на інвестыцыі, мадэрнізацыю і на інавацыі ва ўласную прамысловасць з сельскай гаспадаркай бракуе. Антыкрызісны план на 2015 год упраўленцаў Крамля, як заявіла даследчаная і аб'ектыўная "Газета. Ru", дэ-факта не спрацаваў, рэальны сектар, па вялікаму рахунку, падтрымкі не атрымаў. Правалілася і пуцінская задзея з імпартазамяшчэннем па большасці таварных пазіцый і "шкоднай" заходняй ежы.

Якасць прадуктаў пагоршылася, яны падаражэлі, рэзка вырасла да 21,7млн. чалавек колькасць бедных расіян. Як бы ні балбаталі ілжывыя руская прапагандысцкія тэлеканалы, а ўведзеныя Захадам эканамічныя санкцы даволі сур'ёзна ўдарылі па расійскай эканоміцы. Ужо іх вядучыя банкі і кампаніі, буйнейшыя холдынгі "Газпрам", "Раснафта" не могуць браць патрэбныя крэдыты за мяжой. Рускім абмежавалі, а то і зусім перакрылі, доступ да сучасных тэхналогій здабычы энергарэсурсаў, да прадукцыі двайнога і ваеннага прызначэння. Сёлета на ранейшых даўгах Крэмль выплаціць 75млрд. долараў і разам з вялізным адтокам другі год запар замежных капіталаў ягоныя накопленыя валютныя рэзервы таюць, як сакавіцкі снег.

Масква не можа знайсці нават пару млрд. долараў, каб дапамагчы Беларусі, а ў цэлым спад расійскай эканомікі працягваецца ўжо пяты год. Між тым, і жыццядзейнасць, устойлівасць беларускіх заводаў і фабрык цяпер на 60-70% залежыць ад рынкаў збыту ў Расіі, Украіне, іншых постсавецкіх дзяржаў. Па ўсяму бачна, што і ў будучым годзе цяжка прыйдзецца жыць большасці беларусам, спадзявацца на заканчэнне крызіса і на паступовы рост эканомікі проста не выпадае. Калі суседняя Расія і ў 2016 годзе прадоўжыць бяднець, то і нам трэба рыхтавацца да зацягвання паясоў і да жыццёвых нягод.

Праўда, перад прайшоўшымі прэзідэнцкімі выбарамі расійскі пасол у Мінску А. Сыркаў паабяцаў, што Беларусь усё ж атрымае неўзабаве новы патрэбны крэдыт у памеры 3млрд.USD. Такія сродкі выдзеліць нам Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця, раней ён называўся Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС, а асноўны капітал укладвалі расіяне. Гэта дапаможа беларусам у значнай ступені стабілізаваць макраэканамічнай сітуацыі ў краіне, вырашыць частку праблем. Аднак, галоўнае цяпер, як будзем далей жыць у новай пяцігодцы. Адказы на гэтыя пытанні павінна была даць праграма структурных рэформ на 2016-2020 гады, найперш новыя падыходы да дзейнасці многіх праблемных айчынных прадпрыемстваў.

## Дзень за днём

**Расія дала Беларусі адтэрміноўку па дзеючых крэдытах да 2016 года. Таваразварот з Расіяй з пачатку года знізіўся больш чым на 25 %. А. Лукашэнка правёў карэктыроўку бюджэтных расходаў на 2015 год. Заробкі беларусаў сталі аднымі з найгоршых у Еўропе, меней зарабляюць толькі малдаване і ўкраінцы. Праз 30-35 гадоў па ўсёй краіне прыйдзецца знесці старыя дамы-хрушчоўкі, пабудаваныя ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Міністэрства адукацыі Беларусі правядзе аналіз навучання дзяцей фізкультурай у школах. У Мінску паліклінікі пачалі выдаваць электронныя рэцэпты.**

## Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** З-за эканамічных цяжкасцяў знешні доўг краіны ў 2-м паўгоддзі павялічыўся больш чым на 60% і дасягнуў гігантскай сумы – 1,68 трыльёна долараў ЗША.

**Францыя.** У Елісейскім палацы ў Парыжы прайшла 3-я сустрэча лідараў Германіі, Францыі, Украіны і РФ у нармандскім фармаце перамоў наконт міру на Данбасе.

**Сірыя.** Расійская ваенная авіяцыя пачала баявыя дзеянні супраць не толькі баевікоў-ісламістаў Ігіл, але, найперш, супраць ваенных фарміраванняў апазіцыі рэжыму Б. Асада.

**Англія.** Ваенная аперацыя Пуціна ў Сірыі, як папярэдзіла газета Times, можа закончыцца для рускіх крахам іх эканомікі з-за нізкіх цэн на нафту і ўдзелу ў канфлікце на Данбасе.

**Украіна.** Ні кроку назад Пуцін добраахвотна не зробіць, як заявіла былы прэм'ер-міністр Ю. Цімашэнка, Захад павінен прадаўжаць ціснуць на яго, бо ён плюе на законы ў свеце.

**Індыя.** Пасля 11 гадоў распрацовак Нацыянальная арганізацыя касмічных даследванняў паспяхова вывела на арбіту першую індыйскую касмічную абсерваторыю Astrosat.

**Расія**. Былы віцэ-прэм'ер А. Кудрын папярэдзіў аб далейшымзбядненнібольшасці расіян і ў 2016 годзе, бо зменшыцца індэксацыя пенсій, урад не вызначыўся з новым бюджэтам.

**ЗША**. Палітолаг прафесар У. Пастухоў заявіў, што Пуцін праект "Наваросіі" замяніў праектам "Навасірыя" з непрадказальнымі для сябе і для ўсяго свету наступствамі.

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган заявіў, што Расія робіць сур'ёзную памылку ў Сірыі і будзе з Іранам ізалявана ў рэгіёне, за падтрымку рэжыма Асада яны адкажуць перад гісторыяй.

**Украіна.** Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў краіне 300 мільёнаў долараў для закачкі расійскага газу ў сховішчы на зімовы перыяд, а раней ЗША – 0,5 мільярда долараў.

**Польшча.** З пачатку года польскія мытныя службы зарэгістравалі 800 тысяч чэкаў Tax Free, беларусы вывезлі праз мяжу электронікі, іншых бытавых тавараў на 170 мільёнаў долараў

**Расія.** Міністр эканомразвіцця РФ А. Улюкаеў пацвердзіў, што ў дзяржаўным бюджэце няма сродкаў, каб праіндэксаваць пенсіі ў 2016 годзе, пры інфляцыі 12 % іх падымуць на 4 %.

**Швецыя.** Вучоныя Каралінскага інстытута Стакгольма выявілі, што ў людзей з ростам вышэй сярэдняга намнога вышэйшая рызыка захварэць на рак, чым у астатніх.

**Індыя.** У вёсцы, паблізу сталіцы Дэлі, разгневаныя сяляне забілі да смерці 50-гадовага суседа з-за чутак, што ён еў мяса ялавічыны, хоць на самой справе была бараніна.

**Ватыкан.** Намеснік главы МЗС Беларусі А. Купчына пацвердзіла, што з візітам сюды чакаюць зноў А. Лукашэнку, як і з узаемным візітам Папу Рымскага на беларускай зямлі.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Калі Беларусь не атрымае знешняй грашовай падтрымкі, як спрагназаваў былы глава ўрада М. Чыгір, то ў канцы года дэвальвацыя нацвалюты дасягне 30 тысяч за 1 долар.

**Астравец.** Урад Беларусі запатрабаваў да канца 2015 года ліквідаваць адставанне ад графіка па выкананню будаўніча-мантажных работ на ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Гомель.** Суд пакараў 19 гадамі турмы абодвух бацькоў, 31-гадовую маці і яе сужыцеля старэй на 4 гады, якія пакінулі пакутліва паміраць у пустой кватэры іх грудное дзіця.

**Мінск.** Пасля выбараў, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, краіну чакае нарастаючая беднасць, бо прадоўжыцца стагнацыя існуючай сістэмы пры адсутнасці рэформ.

**Кобрын.** Следства выявіла, што калі ў мясцовым аквапарку тапілася 7-гадовая школьніца, дзве настаўніцы ў той момант забаўляліся на гідрамасажорах, іх справа паступіла ў суд.

**Мінск.** Прэстарэлы акадэмік А. Рубінаў нагадаў, што, нібыта, за ўсю сваю шматвяковую гісторыю Беларусь не мела дзяржаўнасці, нават у ВКЛ ён не ўбачыў нічога беларускага.

**Барысаў.** Страты пасля мадэрнізацыі ААТ "Барысаўдрэў" за паўгода дасягнулі 16 мільярдаў рублёў, праблемы і ў іншых заводаў "Беллесбумпрама" з-за адсутнасці рынкаў збыту.

**Гродна.** Ноччу ў цэху пракатнага шкла шклозавода з-за аварыі вылілася больш тоны расплаўленай масы, работнікі і абсталяванне не пацярпелі, умела дзейнічалі пажарныя.

**Мінск.** Прафсаюз работнікаў РЭП правёў сацдаследванні па краіне, яны паказалі, што большасць беларусаў непакояць магчымы рост цэн і масавыя звальненні з працы.

**Рагачоў.** Спецыялісты Рассельгаснагляду не прапусцілі на расійскі рынак больш 100 тон згушчонкі мясцовага МКК з-за хібаў у дакументах на груз, яго вярнулі на камбінат.

**Мінск.** Начальнік упраўлення Мінпрацы і сацабароны Беларусі А. Ражанец пацвердзіў, што пенсіянерам не плануецца вяртаць ільготы на праезд у грамадскім транспарце.

**Уручча.** Ля храма Усіх святых падчас "Малітвы за Беларусь" журналісты не ўбачылі сярод сагнаных школьнікаў і студэнтаў у масоўцы ніводнага шчырага веруючага чалавека.

**Гомель.** Невядомыя мярзотнікі апаганілі надмагільны гранітны помнік Герою Украіны Міхаілу Жызнеўскаму, якога забілі на Майдане падчас расстрэлу пратэстантаў у Кіеве.

**Астрашыцкі гарадок.** Вучань мясцовай СШ Коля Лукашэнка з-за паездак з бацькам у Кітай і ЗША прапусціў столькі ўрокаў, колькі летась за палову навучальнага года.

**Мінск.** Сусветна вядомая пісьменніца С. Алексіевіч заявіла, што галоўным постсавецкім дыктатарам зараз пад 60 гадоў, яны нікому проста так сваю ўладу не аддадуць.

## Падатковая супакойвае: новая інструкцыя аб даходах-выдатках тычыцца толькі дармаедаў




■ FINANCE.TUT.BY

**Міністэрства па падатках і зборах дало тлумачэнне з нагоды новай Інструкцыі, на падставе якой будуць праводзіць аналіз даходаў і выдаткаў грамадзян. Нагадаем, дакумент 13 кастрычніка быў апублікаваны на Нацыянальным прававым партале і ўжо ўступіў у сілу.**

У тэксце Інструкцыі не прапісаны дакладна пералік грамадзян, якіх закране гэты дакумент. Сёння Міністэрства па падатках і зборах патлумачыла, што навіна ўсё ж не закране ўсіх беларусаў.

«Улічваючы, што Інструкцыя прынята ў мэтах рэалізацыі Дэкрэта, то яе дзеянне распаўсюджваецца на ажыццяўленне кантролю за адпаведнасцю расходаў і даходаў грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў або якія ўдзельнічаюць у такім фінансаванні менш 183 каляндарных дзён у каляндарным годзе», — гаворыцца ў прэс-рэлізе міністэрства.

Такім чынам, новы дакумент тычыцца толькі так званых гультаёў. А вось кантроль над даходамі-выдаткамі працуючых грамадзян па-ранейшаму будзе ажыццяўляцца на падставе дэкларацый аб даходах і маёмасці.

Разлік выдаткаў і даходаў грамадзян, якія доўгі час не працавалі, падатковыя органы будуць складаць толькі за перыяд з 1 студзеня 2015 года.

Калі будзе ўстаноўлена, што выдаткі перавысяць даходы, то грамадзянін атрымае пісьмовае патрабаванне аб дачы тлумачэнняў аб крыніцах даходаў. Даць іх трэба будзе ў пісьмовай форме на працягу 30 каляндарных дзён. Грамадзянін павінен распісаць крыніцы даходу, памер і дату атрымання, а таксама, па жаданні, іншыя звесткі пра крыніцы прыбытку.

«Пры гэтым грамадзянін мае права паведаміць звесткі пра крыніцы яго даходаў за любы перыяд, у якім ім атрыманы такія даходы», — удакладняюць у МПЗ. Па сутнасці, непрацуючы сёння грамадзянін можа паказаць, што жыве за грошы, якія назапасіў да 1 студзеня 2015 года.

«Падаткаабкладанне даходаў, вылічаных зыходзячы з сум перавышэння выдаткаў над даходамі, будзе праводзіцца толькі ў выпадку, калі грамадзянін не прадставіць тлумачэнні аб крыніцах даходаў па пісьмовым патрабаванні падатковага органа або калі прадстаўленыя фізічнай асобай тлумачэнні не дазволяць вызначыць крыніцу даходаў», — гаворыцца ў прэс-рэлізе МПЗ.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У 2 разы ў параўнанні з 2014 годам вырасла сёлета па вобласці колькасць зарэгістраваных беспрацоўных, вакансій для працаўладкавання памянела настолькі.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы масласырзавод пачаў выпуск плаўленых сыркоў і фасаваных сыроў у сучаснай упакоўцы дой-пак і флоў-пак з фасаванай вагой па 180 і 250 грам.

**Паставы.** Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі ўключыла ў новую праграму развіцця АПК да 2020 года санацыю і ліквідацыю 5 самых стратных гаспадарак раёна.

**Лосвіда.** На мясцовым ваенным палігоне прайшлі сумесныя вучэнні з баявой стральбой сіл спецаперацый беларускай арміі і падраздзялення дэсантнікаў з Расіі.

**Віцебск.** У абласной бальніцы ўпершыню правялі экстрана паспяхова аперацыю па трансплантацыі пацыенту аорты ад донара і, тым самым, выратавалі жыццё пенсіянеру.

**Орша.** У горадзе завяршылі ўзвядзенне першага арэнднага 90-кватэрнага дома, пасля аддзелачных работ палову жылля ў ім атрымаюць работнікі мясцовага льнокамбіната.

**Паставы.** У райцэнтры адкрылі першы ў вобласці шматфункцыянальны дзённы цэнтр для адпачынку і медыцынскай рэабілітацыі людзей старэйшага пакалення.

**Глыбокае.** З рабочай паездкай у раёне пабываў старшыня Палаты прадстаўнікоў У. Андрэйчанка, азнаёміўся з працай МТФ "Галубічы", Падсвільская вінзавода.

**Полацк.** Са студэнтамі і выкладчыкамі дзяржуніверсітэта сустрэлася віцэ-прэм'ер урада Беларусі Н. Качанава, затым яна наведала Віцебскі дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава.

**Сянно**. Упершыню ў вобласці сацработнікі пачалі аказваць адзінокім старым, якія з дому не выходзяць, новую бясплатную паслугу "Субяседнік на гадзіну" і адведваць іх.

**Мёры.** Сталічны фотамастак Д. Ласько зняў 3D панараму самага вялікага ў Беларусі вадападу на рацэ Вята, шырынёй патока вады 10 метраў з двухметровай вышыні.

**Верхнядзвінск.** У дэндрапарку мясцовага лясгаса колькасць вырошчваемых дрэў і раслін давялі да 312 відаў, тут расце рэдкае цюльпаннае дрэва, цэлая плантацыя кедра.

**Наваполацк.** У пад'ездзе жылога дома ў другой палове дня знайшлі труп 41-гадовага мужчыны з рэзанай ранай шыі, яго ў ходзе п'янай спрэчкі забіў 51-гадовы знаёмы.

**Орша.** Міліцыя сумесна з АМАПам затрымалі другую злачынную групу, якая крала салярку з нафтаправода Унеча-Вентспілс, перад гэтым групу выявілі і на Полаччыне.

**Полацк.** Пажылая 90-гадовая старая пусціла ў свой дом двух цыганак, пад відам "сацыяльных работніц" яны ўкралі ў яе 1,3 млн. рублёў, праз суткі махляр затрымалі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# "Затое ў вас "Еўраопт" ёсць!"

**Якое самае наведваемае месца адпачынку ў глыбачан? Вы не паверыце! Водна-аздараўленчы цэнтр у Докшыцах!**

Даўно заўважыў, што мая дачка з кампаніяй, у выходныя дні, наведваецца ў Докшыцы. Унучка, дык у захапленні, калі пачуе: "Збірайся, едзем купацца ў басейне!"

– А што, вам не хапае глыбоцкага басейна?– са здзіўленнем пытае аўтар гэтых радкоў.

– Які ў нас басейн? У лазні? Дык гэта не басейн! Ды яшчэ і халадрыга!– адказвалі. – У Докшыцах – басейн! Цёпла, утульна!

– Трэба, пры нагодзе, наведацца ў Докшыцы!– падумалася. – Што там так прываблівае глыбачанаў?

І такая нагода надарылася! Прыехала Людміла, даўняя сяброўка жонкі. З Томска, г.зн, з Сібіры! Там – ужо зіма, лістота даўно апала. А ў нас, нібыта, і лета не скончылася – вакол зеляніна з украпінамі жаўцізны восені...

Не, шаноўныя, не падумайце, што мы з госцяй з Сібіры адразу паехалі ў Докшыцы! Звазілі ў Мосар! Паказалі ўсе цікавосткі Глыбокага, у тым ліку, і помнік Мюнхгаўзену. А госця з Томска толькі ўсклікала: "Ой, как у вас чисто! Как красиво! Как аккуратно! У нас всё уже давно за_рали! Скажите спасибо своему Батьке!"

– А за што дзякаваць Бацьку? Не ён жа тут хадзіў з мяцёлкай! А дворнікі ЖКГ, і шмат хто з глыбачанаў працаваў на суботніках... У нас з "польскіх часоў" – парадак!

Прыехалі ў Докшыцы.

– Ой, как красиво! Как чисто! Всё ухожено!

Не, гэта – не лазня, як здавалася раней! Водна-аздараўленчы цэнтр! Басейн, саўна, масаж, ёсць кавярня. Народу ў фае – шмат, хто здае адзенне ў распранальні, а хто ўжо атрымлівае.

– Ні фіга сабе, як Докшыцы абставілі Глыбокае!– не ўстрымаўся аўтар ад каментара. – Хто б мог падумаць!

– А вы з Глыбокага?– пытае супрацоўніца Цэнтра, якая выдавала жэтоны на адзенне.

– Так, з Глыбокага!

– Шмат вашых глыбоцкіх сем'ямі прыязджае да нас! А вы не перайма́йцеся! У вас, затое, ёсць "Еўраопт"! У нас няма. Мы да вас ездзім на закупы!

Пасля такога прыязнага дыялогу з супрацоўнікамі Цэнтра, ужо не было ніякіх сумневаў, што аўтару гэтых радкоў дазволяць – і без купання – пафоткаць усё, што цікавіць! Так! Толькі сказалі надзець на ногі "шлёпанцы", якія тут жа прынеслі.

Басейн – 3 дарожкі па 25 метраў. Вада блакітная, нібы на Мальдзівах. Цёпла! Праходзіла трэніроўка водна-спартыўнай секцыі дзяўчат і хлопцаў 12-15 гадоў пад кіраўніцтвам трэнера.

Было зразумела, што ў куртцы, хоць і восеньскай, дужа доўга тут не набудзеш, спацееш.

Натуральна, пакуль сваякі і госця з Сібіры бавіліся ў басейне, аўтар рэшту часу вырашыў прысвяціць шпацыру па гораду.

Выходжу з залы басейна ў фае – тлум народу! Хіба што – не можа такі аб'ект быць стратным. Народ ідзе валам!

Колькі каштуе наведванне басейна? З дарослых – 35 000 рублёў, з дзяцей – 15 000. Так што, шаноўныя жыхары вёскі Мярэцкія, калі вам узнімуць кошт наведвання вашай вясковай лазні да 70 000 рублёў, а то і закрыюць зусім, не перайма́йцеся! Да Докшыцаў – 27 км. Хопіць вам і на бензін, і на мыццё, і на басейн! Тым больш, уваход у басейн – праз душ! І назад, таксама, можна праз душ! Жарт, натуральна! Але задумацца ёсць над чым!

Не хацелася б узнімаць балючую тэму – будаўніцтва Лядовага палаца ў Глыбокім. Пабудуюць - не пабудуюць? Можа й калі, пры дарослых нашых унуках, яго і пабудуюць... Але, колькі я не чуў выказванняў на гэты конт, бадай усе – Глыбокае не пацягне фінансава ўтрымліваць такі стратны аб'ект, ён "з'есць" увесь раённы бюджэт.

Можа й не трэба нам, пакуль, жураўель у небе, а лепш сёння сініца ў руках. Маглі б нашыя чыноўнікі і парупіцца, ды пашукаць якога-небудзь "алігарха" ў Мінску, які б мог інвеставаць будаўніцтва падобнага Водна-аздараўленчага цэнтра ў Глыбокім. Бачна, што народ любіць наведваць такія аздараўленчыя цэнтры, а глыбачане іх фінансава падтрымліваюць у іншых гарадах.






**Уверсе – трэніроўка водна-спартыўнай секцыі пад наглядам дасведчанага трэнера.**
**Унізе – Докшыцкі Водна-аздараўленчы цэнтр.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Прыемная цёплая вада. А за вокнамі – сярэдзіна восені.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ Уладзімір Скрабатун

# Глыбокае і Полацк злучае гісторыя Полацкага княства і гісторыя рыцарства!

**У Глыбокім прайшло мерапрыемства, прысвечанае Альгердаву шляху, які даўней злучаў Глыбокае з Вільняй і Полацкам! Па Альгердвым шляху ішлі рыцары на Грунвальдскую бітву – бітву народаў!**

Уміну́лую нядзелю ў двары Глыбоцкага цэнтра рамёстваў было шумна і весела. Чуліся гукі дуды і лязг мячоў. Да глыбоцкіх школьнікаў завітаў ваярска-гістарычны клуб "Гівойт" з Полацка. Людзі, захопленыя гісторыяй! Ведаюць гісторыю! Распаўсюджваюць веды аб беларускай гісторыі. Рыштунак і адзенне на іх – выраблёнае сваімі рукамі і адпавядае часам XIV-пач. XV стст. Гэта значыць, часам векапомнай Грунвальдскай бітвы.

Пад гукі дуды пачаўся знакавы эпізод усіх падобных мерапрыемстваў – здабыванне агню старажытным спосабам. Гэта значыць, з дапамогай прыстасавання, якое нагадвае лук, а яго цецiва – механізм, што прыводзіць у рух драўляны свідар. Так! Усе чыталі, але не ўсе бачылі, як з дапамогай двух кускоў сухога дрэва можна здабыць агонь. Майстар-клас па здабыванню агню прадэманстраваў арганізатар гэтага мерапрыемства Віктар Дудкевіч, майстар Дома рамёстваў.

Агонь – сімвал перамогі святла над цемрай! Тут жа было распалена вогнішча, на якім адразу пачалі варыць паходную рыцарскую кашу з пярлоўкі. Пачаставаць кашу захацелася ўсім школьнікам! У якасці "талеркі" быў звычайны капусны ліст. Зручна! "Талерка" пасля кашы – сойдзе і за салат. Не цягалі ж рыцары з сабой у атаку рондалі і талеркі!

Наогул, смялейшымі тут сталіся, найперш, дзяўчаты! Іх і больш прыйшло! Яны і кашу елі з капуснага ліста, трымалі меч у руках, спрытна стралялі з лука, ды прымервалі да галавы рыцарскі шлем.

Рыцары паказалі майстар-клас валодання мячамі і дзідамі. Хлопцы, якія ўзялі з сабой драўляныя мячы і шчыты, спрабавалі паспрачацца з рыцарамі ў майстэрстве. Рыцары падказвалі на памылкі, якія ў рэальным баі можа скарыстаць супернік.

Натуральна, пад гукі дуды, не абышлося і без старажытных танцаў. Харэографамі былі самі рыцары. Атрымалася вельмі файна. Адзін танец змяняўся іншым. Самы папулярны танец сярэднявечча – "Ойра" – станчылі на выдатна!

На развітанне ўсе школьнікі, нечакана, сталі беларускамоўнымі, ва ўсякім разе, сказалі – "Дзякуй!", а не "спасибо".





# У Камаях адзначылі стагоддзе пачатку святарскай дзейнасці Канстанціна Стаповіча

## Ён больш вядомы пад творчым псеўданімам Казімір Сваяк



**Мерапрыемства адбылося ў нядзелю 18 кастрычніка. Распачалося яно ўрачыстай Імшой у касцёле, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ён удзяліў сакрамант канфірмацыі, або бежмавання, некальким дзясяткам вернікаў. Напрыканцы набажэнства былі асвечаныя жывапісы, якія ўдалося рэстаўраваць цягам апошняга года.**

■ **Зміцер Лупач**

Трэба адзначыць, што касцёл Яна Хрысціцеля ў Камаях – адзін з самых старэйшых у Беларусі, ён пабудаваны ў 1603-1606 гадах. Касцёл дзейнічаў нават у гады ваяўнічага атэізму. З храмам у Камаях звязаны лёс шмат якіх знакамітых людзей, сярод якіх, мастак Альфрэд Ромер, музыкант Браніслаў Рутькоўскі, паэт Казімір Сваяк (ксёндз Канстанцін Стаповіч).

Якраз з апошнім і была звязана імпрэза, якая адбылася пасля Імшы ў плябаніі. Мерапрыемства пачалося з прэзентацыі, прысвечанай Казіміру Сваяку, якую падрыхтавала сваячка Сваяка жыхарка Астравеччыны Іаланта Валуевіч. Бо менавіта на Астравеччыне, у вёсцы Барані, 24 лютага 1890 года нарадзіўся Канстанцін Стаповіч, будучы паэт Казімір Сваяк. Прэзентацыя называлася "Усе яго дарогі вялі да алтара".

Пасля слова ўзяў краязнаўца з вёскі Камарова, што ў Мядзельскім раёне, Іван Драўніцкі, які з'яўляецца адным з першых даследчыкаў жыцця і творчасці паэта. Ён распавёў, што Казімір Сваяк быў у свой час настаўнікам яго бацькі, Пятра Драўніцкага. Дзякуючы Сваяку, які адкрыў у 1915 годзе некалькі беларускіх школ, ён навучыўся чытаць і пісаць на роднай мове.

Потым слова ўзяў мастак Алесь Цыркуноў, які прыехаў на імпрэзу за некалькі дзясяткаў кіламетраў на ровары. І гэта нягледзячы на свой немалады ўзрост! Ён таксама цікавіцца творчасцю Казіміра Сваяка, напісаў яго партрэт. У сваім выступе, сярод іншага, ён звярнуў увагу на стан беларускай мовы ў сучасным грамадстве. Алесь Цыркуноў адзначыў, што вельмі крыўдна, калі ў нашых гарадах і мястэчках, у тым ліку і ў Камаях, назвы вуліц, што носяць імёны выдатных беларускіх дзеячоў, пішуць на рускай мове. Спачатку нашу мову знішчалі чужынцы, а зараз яе працягваюць знішчаць сваімі рукамі самі беларусы, вучні тых чужынцаў.

Выступілі таксама і парафіянкі камайскага касцёла Генавефа Дубіловіч і Яніна Сінкевіч. Спадарыня Яніна прачытала на памяць вялікі верш Казіміра Сваяка "Грэшніца", а таксама распавяла прысутным гісторыю свайго навяртання. Свае вершы прачытала і Генавефа Дубіловіч.

Сваімі песнямі парадаваў прысутных гурт "Балцкі субстрат", кіраўніком якога з'яўляецца Максім Іўкін. Гурт выканаў некалькі песень на словы Казіміра Сваяка. Акрамя гэтага, гурт падрыхтаваў віктарыну, прысвечаную жыццёваму і творчаму шляху Казіміра Сваяка. Па просьбе прысутных, у межах віктарыны, Максім Іўкін прачытаў верш Сваяка пра звон у Жодзішках, які быў вывезены з-за беларускамоўных казанняў, што паступова пачыналі гучаць, дзякуючы такім святарам-адраджэнцам, як Казімір Сваяк, Адам Станкевіч, Вінцук Гадлеўскі і іншым з кагорты нацыянальна свядомага духавенства пачатку XX стагоддзя.

Закончылася ж мерапрыемства дыктоўкай, якую правяла Святлана Буланава. Спадарыня Святлана працуе галоўным бухгалтарам Кемелішскага лясніцтва, але акрамя асноўнай працы шмат часу прысвячае краязнаўству. Удзел у дыктоўцы ўзяў таксама і біскуп Алег Буткевіч. Была ў дыктоўцы адна цытата, якую Казімір Сваяк скіроўваў да сваіх сучаснікаў, у першую чаргу да святароў: *«Благаслаўляю час, у каторым мы аглянуліся і зразумелі пекнасць, хараство мовы роднае… узяліся ўвесці ў паўсюднае жыццё сваё, пачынаючы ад найменшага...»*

І хоць гэтыя словы, напісаныя амаль сто гадоў таму, яны не страцілі сваёй актуальнасці і сёння. На жаль…

Канстанцін Стаповіч нарадзіўся ў 1890 годзе на Астравеччыне. Скончыў семінарыю ў Вільні, святарскую службу распачаў у жніўні 1915 года ў Камаях (Пастаўскі раён), Клюшчанах (Астравецкі), Засвіры (Мядзельскі). Прапаведваў на беларускай мове, што для таго часу было навіной, заснаваў беларускія школы і моладзевыя гурткі. Выдаў зборнік паэзіі "Мая ліра", малітоўнік "Голас душы". Памёр ад сухотаў у 1926 годзе ў Вільні.

Як запавед нашчадкам, можна прывесці такія яго радкі, якія згадваліся на імпрэзе:

*Не рань свайго сэрца,*
*не бойся нікога,*
*усё прамінае.*
*Усе, апроч Бога.*

Ну, і напрыканцы хацелася б адзначыць працу пробашча Камайскай парафіі ксяндза Яцэка Хутмана. Ён з'яўляецца не толькі выдатным святаром, але і арганізатарам, знаўцам гісторыі, архітэктуры, літаратуры, мастацтва, храм пад яго кіраўніцтвам з кожным годам прыгажэе як унутры, так і навакол. Нягледзячы на тое, што спадар Яцэк па нацыянальнасці паляк, ён шмат робіць для захавання гісторыі нашага краю. І шмат каму з беларусаў варта ў яго гэтаму павучыцца.




**Канстанцін Стаповіч (Казімір Сваяк) падчас вучобы ў семінарыі.**



**Пробашч касцёла ў Камаях Яцэк Хутман.**



**Касцёл быў запоўнены людзьмі.**

***Гэты верш, напісаны Казімірам Сваяком сто гадоў таму, вельмі актуальны і сёння.***

Загляне сонца ў наша ваконца,
Хатку асвеціць праменьмі –
Па цёмнай ночы ажывіць вочы
Боскім да працы натхненнем.

Позна мы ўсталі, і шмат праспалі,
Гойдалі злыдні нам долю –
Пяялі песні нам напрадвесні,
Радасці песню ў няволі.

Заход смяяўся, каб ён даждаўся,
У лапцёх што з труду мы спалі, –
Усход нас мучыў цяжка-балюча:
Хацеў, каб з душой мы прапалі.

Абы балота, будзе ліхота:
Дзёрлі нас нянькі-начніцы –
Аж да жывога – мо з волі Бога –
Кроў аж зрасіла зямліцу.

Аж застагнала зямля ў падвалах,
Неба пакрыў бліск агняны –
З болю зямліцы, з крыві крыніцы
Брат наш збудзіўся русняны.

Асвеціць сонца яго ваконца,
Злуду мар сонных развее –
І выйдзе з плугам ён саматугам,
Родненьку ніву засее.

Груган з Усходу, а крук з Заходу
Дарма там жыру шукае –
Бо зерне спорна, у волю прасторна,
Хутка пад неба ўзрастае.

*Казімір Сваяк, 1919 г.*



# Не будзьце абыякавымі!

**З 15 кастрычніка па 10 лістапада 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна супрацоўнікі РАУС сумесна з іншымі ведамствамі праводзяць комплекс дадатковых мер, накіраваных на пераадоленне негатыўных тэндэнцый у аператыўнай абстаноўцы.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

**Асноўнымі мэтамі з'яўляюцца:**

■ комплекснае прымяненне мер індывідуальнай прафілактыкі праваапарушэнняў і мер прэвентыўнага ўздзеяння ў адносінах да грамадзян, якія дапускаюць гвалт у сям'і;

■ недапушчэнне ўцягвання падлеткаў у злачынную дзейнасць, у тым ліку, звязаную з незаконным абаротам наркотыкаў;

■ узмацненне абароны пажылых грамадзян ад злачынных замахаў;

■ зніжэнне колькасці крымінальна-каральных дзеянняў у сельскай мясцовасці супраць уласнасці і грамадскага парадку.

**Кожны грамадзянін можа паведаміць інфармацыю аб супрацьпраўных паводзінах у Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: МТС 597-21-74, Велком 314-89-02, 2-26-82, 2-27-02 або 102.**

# Крадзяжы з дач

**За бягучы перыяд часу 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна распачата 106 крымінальных спраў за крадзеж маёмасці, з якіх 5 злачынстваў складаюць крадзяжы з дач.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Прадметамі замаху з'яўляецца ўсё што заўгодна, ад рондаляў, прадуктаў харчавання, адзення, ровараў, мабільных тэлефонаў, аўтамабільных магнітол да дарагой камп'ютарнай і відэатэхнікі, ювелірных вырабаў і буйных грашовых сум. Дадзены від крадзяжоў зарэгістраваны на тэрыторыі Узрэцкага, Падсвільскага і Псуеўскага сельскіх Саветаў.

У мэтах прафілактыкі крадзяжоў з дачных пабудоў, міліцыя звяртаецца да грамадзян з наступнымі рэкамендацыямі:

■ не пакідайце на дачы электрабытавыя прыборы, электраінструмент і іншую каштоўную маёмасць, вырабы з каляровага металу;

■ зрабіце ўсё магчымае для ўмацавання дзвярэй, зачыняйце вокны аканіцамі т.п., каб перашкодзіць пранікненню ўнутр старонніх асоб;

■ дамоўцеся з суседзямі, якія пастаянна пражываюць паблізу, пра нагляд за вашым жыллём і іншымі дачнымі пабудовамі;

■ пры з'яўленні каля участкаў незнаёмых падазроных асоб паведаміце пра іх вашаму ўчастковаму інспектару або ў дзяжурную частку РАУС па тэлефоне 102 для далейшай праверкі гэтых асоб.

Стаўце на варотах і ў доме не навясныя, а ўрэзныя замкі, так як адразу становіцца ясна, ці на месцы гаспадары. На дзверы ў дом лепш ставіць нават накладныя – каб з вуліцы да іх механізму цяжэй было дабрацца. На вокны мэтазгодна паставіць моцныя краты.

Галоўнае, неабходна памятаць, што захаванасць вашай маёмасці залежыць непасрэдна ад вашай асабістай зацікаўленасці.

# Нашых людзей нічым не напалохаеш

## Бо сумленне ёсць далёка не ў кожнага



**У Рэспубліцы Беларусь ужо не першы год па ініцыятыве Міністэрства лясной гаспадаркі праводзіцца акцыя «Чысты лес». Не выключэннем стаў і 2015 год: з 12 па 18 кастрычніка на тэрыторыі ўсёй краіны тысячы грамадзян праводзілі ўборку і ачыстку лясоў.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

16 кастрычніка 2015 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі ДЛГУ «Дзвінская эксперыментальная база лесу НАН Рэспублікі Беларусь», Глыбоцкая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правялі мерапрыемствы па ўборцы ўчасткаў лесу на тэрыторыі Глыбоцкага раёна. У лесе было прыбрана больш за 10 мяшкоў рознага бытавога смецця, пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, пластыкавыя шкляначкі, дзіцячыя падгузнікі, бляшаныя банкі, бітае шкло ў месцах адпачынку і наведвання грамадзян, – гэта далёка не ўвесь пералік пакінутага імі смецця.

Міжраённая інспекцыя сістэматычна інфармуе грамадзян аб адказнасці за выкідванне смецця, работнікі лясной аховы ўсталёўваюць у лясах фоталавушкі, затрыманыя парушальнікі прыцягваюцца да адказнасці, але нашых людзей нічым не напалохаеш, свядомасць шмат у каго з іх адсутнічае.

З наступленнем халаднаватага надвор'я актывізаваўся клёў драпежнай рыбы, і сотні рыбаловаў пацягнуліся на вадаёмы раёна з мэтай злавіць прыгожага драпежніка-шчупака.

Але, далёка не заўсёды лоўля рыбы адбываецца па законе, з захаваннем дзеючых Правілаў рыбалоўства. Асобныя рыбаловы ўжо забыліся, а можа і наўмысна не падпісваюць свае снасці, кружкі, жэрліцы, пакідаюць іх на ноч, ловяць на дарожку на 2-3 спінінгі, што забаронена.

Так, з 16 па 18 кастрычніка на возеры Кагальнае г. Глыбокае двое жыхароў горада ўсталявалі 19 кружкоў і пакінулі іх без нагляду на двое сутак. Раніцай 18 кастрычніка інспектары міжраённай інспекцыі затрымалі ўладальнікаў з двума асобінамі шчупака і адной асобінай акуня. Парушальнікаў чакае раённы суд і штраф.

Супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі будзе актывізавана работа па прыцягненню рыбаловаў-аматараў да адміністрацыйнай адказнасці за невыкананне патрабаванняў Правілаў рыбалоўства.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету ў чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да забруджвання лясоў, браканьерства.

**Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «тэлефон даверу» – кругласутачна, 8972302, 8905528, 2494549, 6456678 (МТС).**

# Што рабіць, калі іскрыць разетка? Чаму іскрыць разетка?

**І разетка можа свяціцца. Няроўным, мігаючым, але даволі яркім святлом. Але гэтае святло не выклікае ў навакольных ніякага аптымізму і не стварае ніякага святочнага настрою. Можна, вядома, не баяцца, але асцерагацца іскрыстай разеткі ўсё ж варта.**

■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Тэмпература электрычнай дугі, якой і з'яўляюцца разетачныя іскры, дасягае трох тысяч градусаў. А гэта не толькі адмоўна адбіваецца на тэхнічным стане вілкі і разеткі, але і наогул можа прывесці да пажару. Пералічым магчымыя прычыны ўзнікнення іскраў у разетцы.

**1. Разетка іскрыць з-за неадпаведнасці вілкі і разеткі па стандарце.**

Не ўсе ведаюць, што па тэрыторыі былога СССР для выканання электрычных вілак і разетак распаўсюджаны два стандарты: Shuko і савецкі (С). Адрозніваюцца гэтыя стандарты па канструкцыі вілкі і разеткі, але самае галоўнае адрозненне – у дыяметры электрода вілкі. Вілка Shuko, якая ўсталёўваецца на пераважнай большасці сучасных бытавых прыбораў, мае электроды дыяметрам 4,8 мм. Вілка савецкага стандарту мае электрод дыяметрам роўна 4 мм. Вынікам становіцца тое, што людзі, не надаючы ніякага значэння розніцы ў 0,8 мм, камбінуюць вілкі і разеткі розных стандартаў. Савецкая вілка з тонкімі электродамі не можа быць надзейна ўстаноўлена ў разетцы Shuko. Электрычны кантакт будзе слабым, і месца спалучэння вілкі і разеткі будзе іскрыць нават пад мінімальнай нагрузкай. Таму неабходна сачыць за тым, каб вілка і разетка заўсёды падыходзілі адзін аднаму па стандарце.

**2. Разетка іскрыць з-за перагрузкі па току.**

Гэта ці ледзь не самая распаўсюджаная прычына выхаду разетак са строю. Наогул – намінальны ток разеткі заўсёды прыведзены на яе пластыкавым корпусе. Але бяда ў тым, што для большасці абывацеляў гэтыя Ампер з лічбамі не з'яўляюцца зразумелымі. Таму часта ў адну разетку праз трайнік або падаўжальнік падключаецца па некалькі магутных электрапрымальнікаў. Ток у разетцы можа ў некалькі разоў перавысіць намінальны. Пры гэтым кантакты разеткі пачынаюць грэцца, іх супраціўленне узрастае, тэмпература павялічваецца яшчэ больш. А вынік зноў той жа: іскры, полымя, расплаўленыя разетка і вілка і, магчыма, нават пажар. Не варта думаць, што падвойная разетка ў два разы больш магутная за адзінарную. Намінал, пазначаны на разетцы, агульны для ўсіх яе штэпсельных раздымаў.

**3. Знос раздымаў разетак.**

Калі з разеткі часта выдзіраюць і зноў ўсталёўваюць вілкі. Зацiскныя губкі слабеюць і не могуць з дастатковай сілай сціснуць электроды. Следствам становіцца паслабленне кантакту і нагрэў.

**4. Аслаблены кантакт вінтавога зажыму.**

Гэта асабліва актуальна для разетак, якія сілкуюцца ад алюмініевых правадоў. Алюміній сам па сабе з часам «выцякае» з-пад месца кантакту, таму вінтавыя злучэнні з алюмініем неабходна час ад часу падцягваць. Калі гэтага не рабіць, кантакт провада з раздымам разеткі будзе пагаршацца, з'явіцца іскрэнне, якое будзе ўзмацняцца пры дакрананні да вілкі.

**Выснова.**

Якая б ні была прычына іскрэння ў разетцы – гэта дакладная прыкмета таго, што з ёй ёсць праблемы. Закрываць на гэта вочы проста небяспечна. У той жа час, своечасовая рэакцыя на іскрэнне ў разетцы дапаможа не толькі пазбегнуць пажару, але і, магчыма, дазволіць выратаваць разетку, вілку і нават вашу бытавую тэхніку.



